# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Аўторак, 9 жніўня 1994 года | № 83 (10783) | Цана 200 руб.



■ УРАДЖАЙ - 94

# ЧАС, ЯКІ ЭКЗАМЕНУЕ ЎСІХ

**Страшэнная засуха не дазволіла сёлета як след наліцца збожжаваму коласу, прыпыніла рост іншых сельскагаспадарчых культур. Цяпер, калі ў разгары жніво, яна спалучаецца з другой бядой хлеbaboраў — адсутнасцю ў калгасах і саўгасах сродкаў для набыцця паліўна-змазачных матэрыялаў. Камбайны, транспарт, іншая ўборачная тэхніка вось-вось гатовыя спыніцца ў полі, у дарозе: паліва — толькі ў баках. А ўборку ж не адкладзеш на наступны месяц... Дзе ж выхад з гэтага становішча? Як ацэньвае сітуацыю кіраўніцтва вобласці? Якія меры прымае, каб ураджай усё ж быў убраны? З такімі пытаннямі наш карэспандэнт звярнуўся да першага намесніка старшыні аблвыканкома, старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання А.М.ЖУКА.**

— Страты ад засухі будуць вялікія, — сказаў Анатоль Міхайлавіч. — Паводле нашых падлікаў, недабор збожжа ў параўнанні з мінулагоднім складзе 8—9 цэнтнераў з гектара. Сёлета атрымаем цэнтнераў па 25—26. (Летась бункерная вага складала амаль 35 цэнтнераў з гектара). І акрамя недабору збожжа — а гэта ж і грошы, і хлеб, і кармы — недаатрымаем шмат зялёнай масы на пашы і сенажацях. Чакаюцца нізкія ўраджаі кукурузы.

Засуха стварыла найцяжэйшыя ўмовы для падрыхтоўкі глебы пад азімы рапс і азімыя збожжавыя культуры. Араць практычна немагчыма, а тэрміны сяўбы рапсу ўжо насталі. Значыць, трэба інтэнсіўна рыхтаваць глебу пад гэтую культуру, нягледзячы ні на што.

А працаваць сёння ў полі і на камбайнах, і на трактарах надзвычай цяжка. На мяжы магчымага ходзіць тэхніка. Прадзьмуваць радыятары даводзіцца па некалькі разоў на дзень. Але, хачу падкрэсліць, механізатары — народ мужны. Нідзе (нядаўна давялося пабываць у Стаўбцоўскім і Мядзельскім раёнах) не чуў, каб хто сказаў: "Горача, немагчыма працаваць..."

У цэлым жа ўборка нескладаная. Палегліцы амаль няма. Праўда, і намалотаў няма. І калі ўжо мы загаварылі пра іх, то хачу сказаць, што на 8 жніўня ўбрана 34 працэнты збожжавых і зернебабовых. Намалочана 475,6 тысячы тон збожжа. З гектара выходзіць па 27,2 цэнтнера. Летась на гэтую дату было ўбрана 28 працэнтаў, ураджай быў 30,4 цэнтнера з гектара. Лідэр жніва — Клецкі раён: убрана 71 працэнт. У Капыльскім — 57, Нясвіжскім — 66. Такая статыстыка жніва.

***— Якое значэнне надаецца ўборцы саломы?***

— Сёлета шмат увагі ўдзяляем гэтаму пытанню, бо салома ў такі засушлівы год будзе адным з кампанентаў рацыёнаў жывёлы. З гэтай прычыны імкнёмся запусціць усе камбайны са здрабняльнікамі. Здробненую масу трэба закладваць разам з сыроваткай, жытняй мукой па докшыцкаму метаду, каб больш нарыхтаваць траншэйнага корму, таму што сіласных культур будзе недабор.

Работа камбайнаў са здрабняльнікамі — гэта найлепшая тэхналогія ўборкі. Але кіраўнікі гаспадарак чамусьці не ідуць на яе ўкараненне. Там жа, дзе падсеяны травы, поле адразу застаецца чыстае, а гэта вельмі важна. На іншых участках можна весці ранняе лушчэнне ржышча, якое з"яўляецца найлепшым агратэхнічным прыёмам знішчэння пустазелля.

І яшчэ адна вельмі важная асаблівасць сёлетняга жніва. Пры сённяшніх умовах надвор"я трэба адмовіцца ад сушкі збожжа ў сушылках. Гэта ў 2—3 разы даражэй, чым пры раздзельным спосабе ўборкі. Вельмі прымальны раздзельны спосаб і па той прычыне, што паліва ў гаспадарках недастаткова і яно вельмі дарагое. Вільготнасць жыта ў коласе 24—25 працэнтаў. Скасілі яго, і валку дастаткова праляжаць адны суткі. Падбор робяць "Донам". Якасць абмалоту выдатная.

***— Анатоль Міхайлавіч, не менш за збожжа ў сельскай гаспадарцы важныя кармы для жывёлы.***

— На сённяшні дзень ёсць 6,8 цэнтнера кармавых адзінак травяністага фуражу ў разліку на ўмоўную галаву жывёлы. Гэта амаль на паўцэнтнера больш леташняга. Добра папрацавалі калгаснікі на нарыхтоўцы сена. 354 тысячы тон назапашана яго для грамадскай жывёлагадоўлі і 170 тысяч тон развезена па дварах калгаснікаў для асабістай жывёлы. Сена нарыхтавана на 100 тысяч тон больш, чым летась. Сенажу маем 260 тысяч тон — на ўзроўні мінулага года. Толькі па нарыхтоўцы травяной мукі здалі пазіцыі. Прычына ўсё тая ж — недахоп паліва.

***— А цяпер давайце звернемся да асноўнай праблемы сёлетняга жніва — забеспячэння гаспадарак паліўна-змазачнымі матэрыяламі.***

— Адсутнасць сродкаў у калгасах і саўгасах адбіваецца на вырашэнні розных пытанняў, але асабліва лімітуе набыццё паліўна-змазачных матэрыялаў. Калі маслам мы ў асноўным забяспечылі гаспадаркі, то з палівам складана: некаторыя калгасы і саўгасы жывуць, што называецца, з колаў. Райсельгасхарчы дзеляць паліва літаральна па тоне. Каб толькі не спынілася тэхніка. І такіх гаспадарак у вобласці амаль палавіна. Праўда, ёсць калгасы і саўгасы, дзе паліва назапашана і на ўсю восень.

***— Дарэчы, чаму ў адной гаспадарцы дастатак бензіну, а ў другой — не?***

— Розны ўзровень вытворчасці таварнай прадукцыі і аб"ёмаў яе рэалізацыі. У каго гэтыя аб"ёмы вялікія, той мае сёння прыток грошай і можа закупіць паліва, бо яно ў рэспубліцы ёсць. У час леташняй уборкі мы пакутавалі ад таго, што паліва не было дзе купіць. Камерсанты яго не мелі, і дзяржаўных фондаў не было. Сёлета і па фіксаваных цэнах пастурае. Але, галоўнае, камерцыйнага дастаткова. Словам, у каго ўзровень вытворчасці высокі, хто атрымлівае шмат малака, мае падсобныя промыслы і кожны дзень можа нешта прадаць, той мае грошы, за якія можна купіць і паліва, і запчасткі. Вось, напрыклад, Куляшоў Георгій Іванавіч, дырэктар аграфірмы "Стара-Барысаў". Ён цяпер за бульбу, кансерваваную і свежую агародніну кожны дзень атрымлівае 70—80 мільёнаў рублёў. У Мінск адпраўляе бульбу, у Барысаве гандлюе. А ў каго няма такога дастатку прадукцыі — той і грошай не мае.

***— Але ж такая сітуацыя ўзнікла не па віне кіраўнікоў гэтых гаспадарак.***

— Таму дзяржава і дапамагае. Знайшлі 2 трыльёны рублёў крэдытных рэсурсаў для закупу збожжа ў калгасах і саўгасах. Гэтымі рэсурсамі камбінаты хлебапрадуктаў карыстаюцца ўжо, плацяць калгасам і саўгасам за пастаўляемае збожжа. Адшукалі 55 мільярдаў рублёў для нашай вобласці, каб разлічыцца з калгасамі і саўгасамі за рэалізаваную ў ліпені прадукцыю жывёлагадоўлі. Значыць, паявяцца свабодныя грошы, за якія можна будзе купіць у першую чаргу, вядома, паліва. Далей. Знайшлі крэдытныя рэсурсы для пакупкі прадукцыі, якая пойдзе на зімовае захоўванне. Аднак пакуль не адкрыта крэдытная лінія пад уборку ўраджаю і асеннюю сяўбу. Калі такую крыніцу фінансавання не знойдуць, то гэта будзе моцная падножка ўсёй сельскай гаспадарцы рэспублікі. Гэта адаб"ецца на харчовых запасах і наступнага года.

Тут ёсць адна акалічнасць, якую сёй-той у высокіх інстанцыях не хоча зразумець. Работу — сяўбу, ворыва, нарыхтоўку кармоў — мы павінны выканаць сёння (і грошы нам патрэбны сёння), а прадукцыю, якую можна будзе рэалізаваць, атрымаем толькі праз год. Напрыклад, свініну, а ялавічыну — праз два ўвогуле. А вось крэдыт нам банк дае толькі на два месяцы... Абсурд. Што, гэтага не разумее кіраўнік Нацыянальнага банка рэспублікі Багданкевіч? Разумее, але няйнакш хоча развалу калгасаў.

***— Негатыўную ролю тут адыгрывае і адсутнасць парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, прыкметныя адрозненні розніччных цэн на харчовыя тавары ў нас і ў краінах СНД.***

— Рознічныя цэны на прадукты харчавання ў нашай рэспубліцы настолькі нізкія, што яны літаральна вядуць да жабрацтва нашу дзяржаву, разбураюць яе бюджэт. Практычна за кошт бюджэту рэспублікі мы кормім не толькі сваё насельніцтва — багатых і бедных, але і Прыбалтыку, усю СНД. Вось глядзіце, цана на малако ў нас у 55 разоў ніжэйшая, чым у Маскве, на яйкі — у 27,3, пшанічны хлеб — у 11 разоў. Бульба рэалізуецца ў 5,5 раза дзешавей, ялавічына і мясапрадукты маюць цэны ў 4—5 разоў ніжэйшыя. Вось чаму амаль уся наша харчовая прадукцыя трапляе на тыя рынкі, дзе цана на яе вышэйшая, чым у нас.

Менавіта таму, што ў нас нізкія цэны і высокія датацыі на прадукты харчавання (не толькі для свайго народа, але і для замежнага насельніцтва), у бюджэце дзяржавы нічога няма для таго, каб хоць крыху зменшыць разрыў паміж закупачнымі цэнамі і сабекоштам сельскагаспадарчай прадукцыі. Закупачныя цэны па гэтай прычыне настолькі адсталі, што, напрыклад, гадоўля буйной рагатай жывёлы стала нявыгаднай.

Узровень закупачных цэн на прадукцыю раслінаводства, збожжавыя культуры ў прыватнасці, ужо больш-менш дастатковы. Напрыклад, жыта мае цану, якая складае 92 працэнты ад сусветнай, ячменю — 88, пшаніцы — 81. А на прадукцыю жывёлагадоўлі (ялавічыну) — толькі 20 працэнтаў ад сусветнай цаны, свініну — 30, малако — 56. Вось па гэтай прычыне найбольш рэнтабельнымі з"яўляюцца ў нас збожжа і іншая прадукцыя раслінаводства, а не малако і мяса. Таму мы можам загубіць сельскую гаспадарку канчаткова, калі не падняць закупачныя цэны на жывёлагадоўчую прадукцыю.

***— Але ж гэта ўздыме ўгору і рознічныя. А як успрымуць такі крок бяднейшыя слаі насельніцтва?***

— Такі крок урада няхай выклікае трывогу ў багатых. А бедных трэба абараніць — дабавіць адпаведныя сумы да пенсій, стыпендый, узняць мінімальную зарплату. Толькі так — іншага выхаду няма — можна спыніць вываз прадукцыі за межы рэспублікі. Бо калі па-ранейшаму будзем вазіць, дык зіму сустрэнем без усялякіх запасаў.

Вось вам галоўная прычына таго, што не толькі ў слабых калгасаў, а нават у дастаткова моцных няма сродкаў на пакупку паліва, запчастак, мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы раслін. Калі закупачныя цэны больш-менш падраўняюцца, тады гаспадаркі набудуць магчымасць зарабляць грошы. І той, хто ўмее працаваць, выгадна рэалізоўваць прадукцыю, будзе мець грошы.

***— У гэтых умовах, па-мойму, істотна ўзрастае роля кіраўніка гаспадаркі.***

— Вядома. Вось паглядзіце, ёсць гаспадаркі, дзе і вялікай вытворчасці няма, але кіраўнік удумліва, разважліва вядзе справу, разлічвае, дзе і што прадаць, што набыць, з кім разам нейкую праблему вырашыць на ўзаемавыгадных умовах. І гаспадарка жыве, развіваецца. Возьмем Чэрвеньскі раён. Калгас "Грабянецкі" раней нічым асабліва не вызначаўся, а цяпер... Моцных промыслаў там няма. Гаспадарка сярэдняя. А старшыня гаворыць: "Жыву і буду жыць". Я ўжо не гавару пра кіраўніка калгаса "Рачкавічы" Слуцкага раёна Анатоля Пятровіча Радзюка, які працуе з шырокім размахам. Або возьмем калгас "Беларусь" таго ж Слуцкага раёна. Яго праўленне цяпер узначальвае малады мясцовы хлапец Леанід Заяц. І ўсё змянілася. Пасевы — быццам там засухі няма. Рапс — у рост чалавека. Ячмень — прызнаюся, такога даўно не бачыў. Вырошчвае лён, цукровыя буракі, агародніну. Каб было чым гандляваць... А ёсць кіраўнікі, як, напрыклад, старшыня калгаса "Нёман" Стаўбцоўскага раёна Цвірко Юліян Пятровіч, якія разгубіліся ў сучасных умовах.

Словам, роля кіраўніка сёння важная як ніколі. Наш час экзаменуе кожнага з іх на ўменне гаспадарыць.

*Іван АБАБУРКА.*







# ЖНІВО НЕ ВЕДАЕ ВЫХАДНЫХ

ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ у сялян у гэтыя гарачыя жніўеньскія дні пачынаецца не па гадзінах. Высушыла сонца расу — уперад! У календары ўборачнай выхадных няма.

Больш за ўсё пад збожжавыя культуры ў Маладзечанскім раёне засеяна ў калгасе "Светлы шлях" — 1.550 гектараў. І калі б не гарачае надвор"е, усе 14 калгасных камбайнаў сёння былі б на палях. Але не на ўсіх участках збожжа даспела, і таму парачка "стэпавых караблёў" "адпачывае" на мехдвары. Пры сённяшніх цэнах на бензін і дызпаліва, запчасткі нявыгадна гнаць іх на гадзіну-другую работы.

— Калі б не перабоі з гаручым і цяжкасці з запаснымі часткамі да "Донаў", — гаворыць старшыня калгаса Аркадзь Асіповіч, — у любой інстанцыі смела мог бы адрапартаваць: да ўборачнай гатовы на сто працэнтаў. А так запас саляркі зрабілі на тыдзень, а бензін атрымліваем, як кажуць, з колаў.

Не часта сустрэнеш гаспадарку, дзе ўкамплектаваны ўсе механізатарскія кадры, у кожнага гатова замена. І не толькі на камбайнах. Яшчэ перад пачаткам уборачнай сабраў старшыня ўсіх работнікаў і сказаў: "Кожнаму будуць плаціць па працы, але незаменным сябе няхай ніхто не адчувае". Кожны камбайнер, які прыязджае на абед (дарэчы, за кошт калгаса), ведае, колькі ён зарабіў учора.

"Змаганне за ўраджай" у калгасе "Светлы шлях" пачалося 28 ліпеня. І ўжо ў першыя дні стала вядома, што больш за 40 цэнтнераў з гектара гаспадарка атрымала. Можа, хто і ўсміхнецца — падумаеш! Я ж толькі забыўся сказаць раней: калгас — селекцыйна-насенны. За тыдзень уборачнай кампаніі паспелі прадаць дзяржаве 350 тон гатовага збожжа, 250 тон з якіх — насеннага ці піваварнага ячменю.

У калгасе ад адной брыгады да другой — немалая адлегласць. Старшынёўская "Ніва" за дзень намотвае фантастычны кіламетраж. Гэта пры тым, што брыгадзіры тут надзейныя. Але гаспадарскае вока — гэта гаспадарскае вока.

З гонарам за "сваіх" дыктаваў мне ў блакнот Аркадзь Асіповіч прозвішчы сваіх "мужыкоў": "Абавязкова адзначце Юрыя Барташа, Аляксандра Кохана, Сяргея Бабея... Адным словам, усіх..."

А за словамі старшыні — 12 магазінаў у 12 населеных пунктаў калгаса. І працуюць так, каб механізатары змаглі пасля змены і хлеба купіць, і да хлеба, і цыгарэт... Пра абеды за калгасны кошт я ўжо гаварыў.

...Прыгожа выглядаюць на вялікім полі камбайны. Толькі чаму гэты час года называюць "бітвай за хлеб"? Пры мне прыехаў на сушылку трактар з поўным прычэпам ільняных галовак (гаспадарка, калі памятаеце, насенная). Заканчваецца нарыхтоўка сіласу. Ідзе падборка валкоў, нарыхтоўка канюшыны, гародніны і ранняй бульбы.

Але галоўнае, згадзіцеся, — хлеб. Ён, як вядома, усяму галава.

*Аляксандр ВІЛЬЧЫНСКІ.*

*НА ЗДЫМКАХ:* уборка ячменю; старшыня Маладзечанскага райвыканкома **А.Я.Луновіч,** галоўны аграном **К.І.Мялюк,** старшыня калгаса **А.М.Асіповіч** "прыкідваюць" віды на ўраджай; памочнік камбайнера Васіль **Кохан.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## "Залаты" юбілей МАЗа

"Залаты" юбілей адзначае сёння гігант беларускага машынабудавання — Мінскі аўтамабільны завод. Павіншаваць шматтысячны калектыў з 50-годдзем прыбылі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечаслаў Грыб, кіраўнік Кабінета міністраў Міхаіл Чыгір, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расіі ў Беларусі Ігар Сапрыкін, прадстаўнікі Украіны, Польшчы, Германіі, Аргенціны, Францыі і іншых дзяржаў, якія з"яўляюцца або дылерамі аўтазаводцаў, або аказваюць беларусам дапамогу ў аўтамабілебудаванні.

"Мінскі аўтамабільны завод — гэта не проста буйное прадпрыемства, — сказаў на ўрачыстым сходзе Мечаслаў Грыб. — Гэта, перш за ўсё, візітная картка нашай Беларусі ва ўсім свеце. Машыны маркі "МАЗ" ездзяць па дарогах дзесяткаў краін ад берагоў Атлантычнага да Ціхага акіяна. Прыемна, што цяпер калектыў настроены на стварэнне складанай тэхнікі, адначасова імкнучыся паспяхова вырашаць і сацыяльныя праблемы".

За значны ўклад у развіццё аўтамабільнай прамысловасці і дасягненне высокіх творчых паказчыкаў Мечаслаў Грыб уручыў 50 аўтазаводцам і работнікам сумежных прадпрыемстваў Ганаровыя граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

Сардэчнае прывітанне ў адрас юбіляра ад імя Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі перадаў Міхаіл Чыгір. "Сёння Прэзідэнт і ўрад актыўна працуюць над тым, каб вывесці краіну з крызісу, — сказаў ён. — У вырашэнні гэтай праблемы асаблівая роля адводзіцца аўтазаводцам. Неабходна, каб новая тэхніка была як мага хутчэй пастаўлена на канвеер".

Кіраўнік урада зачытаў указ Прэзідэнта рэспублікі, у адпаведнасці з якім за шматгадовы асабісты ўклад у дзейнасць прадпрыемства 15 аўтазаводцам прысвойваецца званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь".

"Завод — гэта не толькі цэхі, станкі, машыны, — падкрэсліў, выступаючы перад калектывам, яго генеральны дырэктар Міхаіл Лаўрыновіч. — Гэта перш за ўсё людзі, чыімі рукамі і творчым розумам ствараецца і выпускаецца аўтатэхніка. І гісторыя завода — гэта перш за ўсё гісторыя людзей, якія сядзяць у гэтай зале".

Свята аўтамабілебудаўнікоў завяршылася на стадыёне "Тарпеда", дзе адбыўся канцэрт майстроў беларускай эстрады.

## Хлеб — усяму галава. І цана яму — асобая

Жывой вадой для хворай эканомікі могуць стаць толькі рэальныя цэны. У гэтым перакананы віцэ-прэм"еры новага ўрада Сяргей Лінг і Уладзімір Гаркун, якія 5 жніўня правялі прэс-канферэнцыю па праблемах цэнаўтварэння.

— Палітыка штучна стрымліваемых цэн, калі ад сабекошту хлеба пакупнік плаціць толькі 13 працэнтаў (малака — 6, дзіцячага харчавання — 4 працэнты), а астатняя частка кампенсуецца датацыямі з бюджэту, давяла эканоміку краіны да абсурду, — сказаў Сяргей Лінг. — Эканоміку трэба лячыць. Мы рэальна ўсведамляем, што будучае павышэнне цэн на хлеб і малочнакіслую прадукцыю — мера ў народзе непапулярная, цяжкая, але ў цяперашніх умовах яна неабходная, і іншага шляху няма.

Таму няпростую размову аб новых цэнах члены ўрада пачалі не з лічбаў, а з растлумачэння неабходнасці адмены датацыйных цэн на прадукты харчавання і ўвядзення пры гэтым канкрэтнай адраснай дапамогі сацыяльна неабароненым грамадзянам рэспублікі.

— Сёння цана на малако ў Беларусі намнога ніжэйшая, чым у Расіі, — сказаў Уладзімір Гаркун. — Аналагічнае становішча з цэнамі на хлеб. Таму не трэба здзіўляцца, чаму нашы заводы ў апошні час удвая павялічылі выпечку хлеба, а яго на прылаўках няма. Згодна з законамі эканомікі, увесь тавар цячэ туды, дзе за яго больш плацяць. Значыць, наш хлеб "у цане" ў жыхароў прыгранічных з рэспублікай раёнаў краін Балтыі, Расіі, Украіны. Час паказаў, што забаронныя ўказы не заўсёды эфектыўныя. Выхад адзін — цэны на хлеб і малочныя прадукты ўстанавіць такія, якія яны павінны быць. А дзяржаўную датацыю пры гэтым трэба перакласці ў кішэні працоўных рэспублікі.

Паводле папярэдніх падлікаў, па 85 тысяч рублёў да пенсіі атрымаюць непрацуючыя пенсіянеры. На 80 тысяч рублёў павялічыцца студэнцкая стыпендыя. Столькі ж на кожнае дзіця атрымаюць бацькі. Праіндэксавана будзе і заработная плата. Чакаецца, што з дзяржаўнай казны на гэтыя мэты штомесяц будзе выдзяляцца больш як 400 мільярдаў рублёў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Кандыдаты ў лаўрэаты

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры дапусціў да ўдзелу ў далейшым конкурсе лепшыя творы гэтых жанраў. Прыемна адзначыць, што сярод вылучаных аўтараў ёсць і прадстаўнікі Міншчыны.

Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі і педагагічны калектыў Дзераўнянскай сярэдняй школы Стаўбцоўскага раёна вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі рэспублікі раманы "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя", "Свой дом" Генрыха Далідовіча. Першае апавяданне ён надрукаваў у 1966 годзе ў стаўбцоўскай раённай газеце "Прамень". Пасля заканчэння БДУ выкладаў родную мову і літаратуру ў школах Барысаўшчыны. Цяпер Генрых Далідовіч — галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", аўтар многіх кніг, лаўрэат Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў рэспублікі імя І.П.Мележа.

У спісе на лаўрэацкія званні значыцца і прозвішча намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Паўлава, які нарадзіўся ў вёсцы Замошша Любанскага раёна. Паэтычныя вобразы родных мясцін можна сустрэць у яго кнігах "Узлётная паласа", "Далягляд", "Светацені", "Начная балада", "Каласы радкоў", "Гадавое кальцо" і інш. На прэмію вылучаны вершы апошніх гадоў, што сабраны ў кнізе паэзіі "Што было на Беларусі".

Наўрад ці знойдзецца ў рэспубліцы настаўнік роднай мовы, які б у сваёй практычнай рабоце не карыстаўся кнігамі літаратурнай крытыкі "Слова і вобраз", "Шматгалоссе жыцця", "Погляд" Уладзіміра Юрэвіча, дзяцінства якога прайшло ў вёсцы Дуброва Смалявіцкага раёна. На Беларускім радыё ён у 1963 годзе распачаў перадачу для школьнікаў — радыёклуб "Жывое слова", нязменным старшынёй якога з"яўляецца і цяпер. Менавіта такая праца і дапамагла яму напісаць навукова-папулярную кнігу "Слова жывое, роднае, гаваркое...", якая вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

А вось Кастусь Цвірка (нарадзіўся на Старадарожчыне) паспяхова працуе ў дзвюх "іпастасях": як паэт, выдаў кнігі "Такія сэрцы ў нас", "Хат вячысты дар", "Каласы", "Рэха дарог", "Лодка долі тваёй" і інш., а як вучоны, кандыдат гістарычных навук, падрыхтаваў манаграфію пра Сыракомлю, адзін з аўтараў кнігі "Беларуская фалькларыстыка эпохі феадалізму", складальнік тома "Вяселле. Абрад". На Дзяржаўную прэмію прадстаўлена яго новая кніга "Лісце забытых алеяў", у якой бліскуча спалучыліся два таленты: паэта і вучонага-даследчыка.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Эканоміка: рэфармацыя і дэфармацыя

# "Роніс" робіць выбар,

## або Што хвалюе правінцыяльнага камерсанта

**Кіраўнік салігорскага малога прадпрыемства "Роніс" М.С.Робец на размову аб праблемах прадпрымальніцтва згадзіўся адразу. І восьякі атрымаўся маналог.**

### Камерцыйны? Значыць, таннейшы

Нядаўна наш калектыў адзначыў сваю трэцюю гадавіну. Пачыналі з продажу тавараў з латкоў. Мелі адзін кіёск, цяпер маем шэсць, два магазіны — "Палессе" і "Пралеска".

У многіх цвёрдае перакананне: калі крама камерцыйная, то цэны абавязкова "кусаюцца". Скажу: далёка не заўсёды, а ў многіх выпадках — зусім наадварот. Кілаграм каўбасы паўвэнджанай, напрыклад, каштуе на 5—6 тысяч рублёў менш, чым у дзяржаўным магазіне. Выгадней у нас набываць і некаторыя іншыя тавары.

Ці возьмем тую ж "Пралеску". Працуе з ранку да васьмі вечара, без выхадных, за дзень выручае да пяці і больш мільёнаў рублёў. А штат — усяго шэсць работнікаў. Адна прыбіральшчыца, тры грузчыкі — на абодва магазіны. Усяго ў нашым прадпрыемстве каля паўсотні чалавек. Закупляем прадукцыю прама ў цэхах, без перакупшчыкаў, таму многія тавары ў нас таннейшыя, чым у дзяржаўных магазінах. Свае даходы імкнёмся памнажаць за кошт хуткэйшага абароту сродкаў. За кошт аператыўнасці. Стараемся рэалізаваць прадукты адразу, у свежым выглядзе. Заключаем дагавор з калгасам "40 год БССР". Ён мяркуе штодзень прадаваць нам свіней. Мы будзем разбіваць тушы. Пакупнік зможа набыць мяса, якое нават не пабывала ў халадзільніку. Прама на ... вачах у яго зробім фарш...

### Хочаш жыць...

Гандлюем не толькі ў Салігорску. Напрыклад, купілі нядаўна партыю крухмалу ў Баранавічах, даставілі яго ў Расію. Адтуль прывезлі муку, цукар. Камусьці пастаўляем каўбасы, узамен бяром бананы, лімоны. Праклалі дарогі ў Расію, Малдавію, на Украіну. Быў у Індыі. Адтуль чай, каву думаем пастаўляць. Атрымаў запрашэнне ад аўстрыйскіх прадпрымальнікаў. Яны вырабляюць прыстасаванні да аўтамабіляў, якія зберагаюць да 25 працэнтаў паліва. І важаць усяго 70 грамаў. Нядрэнна было б наладзіць іх зборку і ў Салігорску.

Некаторыя старыя структуры і не думаюць перабудоўваць сваю работу, сумленна канкурыраваць з намі. Прасцей падножкі ставіць. Нядаўна мы прадавалі яйкі танней, чым салігорская птушкафабрыка. І што ж? Паехалі па чарговую партыю ў Баранавічы, а нам кажуць: "Загадана вам прадукцыю не адпускаць!"

Многія адпускныя цэны, нават тарыфы на перавозку грузаў па чыгунцы, для нас больш высокія. Быццам бы ў інтарэсах людзей грошы з нас бяруць. Але ж страчаныя сродкі мы ўсё роўна ў сабекошт прадукцыі ўключаем, бо са стратамі для сябе ніхто ж прадаваць не будзе...

А інфляцыя... Не паспееш рэалізаваць партыю тавару, як грошы зноў абясцэніліся. Як разлічвацца з пастаўшчыком? Ну і пачынаеш круціцца...

### З кім даходы дзяліць?

Некаторыя думаюць: калі камерсант, то на мяшку з грашыма сядзіць. А ў нас увесь прыбытак, як правіла, адразу ў справу ідзе. Значная частка яго выплачваецца ў выглядзе падаткаў — іх жа безліч. Толькі паспявай плацежныя дакументы падпісваць.

Тым не менш свабодныя сродкі маем, пачынаем узводзіць адміністрацыйны будынак, дзе будзе і магазін, і жыллё. Больш за 90 мільёнаў аддалі на будаўніцтва яшчэ адной кватэры. "Пралеску" абсталявалі. Аклады ў нашых работнікаў не надта вялікія. Але кожнаму ў месяц даплачваем 85 тысяч на харчаванне. Некаторыя дэфіцытныя тавары прадаём ім без нацэнак.

І іншым імкнёмся дапамагчы. Не так даўно 800 тысяч Свята-Пакроўскай царкве перадалі. Пералічвалі грошы клубу "Мара", дзіцячаму дому.

Часта мяне пытаюць: "А рэкецірам плаціш?" Прызнаюся: было такое, плаціў. Яны нават тры грузавыя аўтамабілі мне прадалі. А пазней высветлілася — крадзеныя. Машыны мы вярнулі гаспадарам, рэкеціры "селі", цяпер з імі суд разбіраецца. Больш складана з дзяржаўным "рэкеціцтвам". Некаторым чыноўнікам нейкія сувеніры дарыць даводзіцца. Бо ён можа дакумент афармляць мінуту, а можа — пяць дзён. І ўсё будзе законна. А для нас час — грошы.

Так, на жаль, робіцца амаль усюды. І мы будзем вельмі рады, калі ў нас з'явіцца магчымасць абыходзіцца без гэтага, і мы зможам спакойна гандляваць, па-сапраўднаму канкурыраваць. У выйгрышы акажацца тады ўсё наша грамадства.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Точка зрения

# МОНОПОЛИСТА ЗАКОН НЕ ПУГАЕТ

## Для него страшен повев конкуренции

**В нашей республике есть Закон "О противодействии монополистической деятельности и развитии конкуренции". С целью контроля за монополистической деятельностью создан Государственный комитет по антимонопольной политике и его территориальные органы. С июня 1993 года действуют его областные территориальные управления.**

**Главным объектом антимонопольной политики на ближайший период является не только сфера производства товаров, но и сфера обращения, оказания услуг населению. Особая роль отводится активной антимонопольной политике в отношении концернов, ассоциаций и объединений.**

За первое полугодие текущего года областным управлением по антимонопольной политике проведено 28 проверок организаций области по соблюдению антимонопольного законодательства. На 4 из них выявлены нарушения статьи 7 упомянутого Закона, которая запрещает органам управления принимать акты, заключать соглашения, совершать иные действия, ограничивающие самостоятельность хозяйствующих субъектов, создающие для них дискриминирующие условия. Такие действия со стороны руководства в ходе проверок были выявлены в областном государственно-кооперативном объединении по плодоовощной продукции и картофелю "Минскплодоовощхоз", ПО "Минсккрахмалпром", производственно-коммерческом предприятии общественного питания "Борисов", областном ПО "Минскоблсельхозхимия". В 4 случаях выявлены нарушения статьи 5 этого же Закона — злоупотребление хозяйствующим субъектом доминирующим положением на рынке. Такие нарушения допустили арендное предприятие завода "Агромаш" г.Дзержинска, Молодечненский мясокомбинат, предприятие "Миноблгаз", Копыльский маслосыродельный завод.

Основное нарушение со стороны вышеуказанных предприятий — использование своего монопольного положения в навязывании контрагенту особых условий. К примеру, на заводе "Агромаш" в договорах поставки теплоэнергии потребителям есть особые условия, которыми предусмотрено на сумму потребляемой теплоэнергии поставлять заводу "Агромаш" раствор и бетон. Такие требования содержатся в договорах, заключенных с МПМК-190, СУ-42 треста №23. Т.е. контрагенту навязаны условия, не относящиеся к предмету договора.

Для осуществления контроля за деятельностью объединений и предприятий, которые признаны монополистами на рынке области, принятия мер государственного регулирования, недопущения необоснованного сокращения производства, замены ассортимента сформирован Государственный реестр и регистр предприятий, которые занимают доминирующее положение на рынке. В реестр включены предприятия-монополисты, имеющие на рынке социально значимых товаров и услуг долю более 30 процентов и нарушающие монопольное законодательство. В областной реестр и регистр включены предприятия, оказывающие услуги населению по теплоснабжению, водоснабжению и водоотведению, предприятия комбикормовой промышленности, хлебопродуктов, мясокомбинаты и молочные заводы по отдельным видам продукции. Таких хозяйствующих субъектов, занимающих доминирующее положение на товарном рынке области, включенных в Государственный реестр, — 28, в Государственный регистр — 62.

11 предприятий включены в республиканский Государственный реестр. Это Борисовская макаронная фабрика, Клецкий консервный завод, Молодечненская швейная фабрика "Юнона", арендная производственная трикотажная фабрика "Світанак" г.Жодино, ПДО "Борисовдрев", ПО "Беларускалий", Пуховичский опытно-экспериментальный завод и другие предприятия. Областным антимонопольным управлением с помощью специалистов горрайисполкомов определены предприятия-монополисты, занимающие доминирующее положение на рынках товаров и услуг городов и районов области. Для монополистов, включенных в реестры, предусмотрен целый ряд ограничений, определенных Законом "О противодействии монополистической деятельности и развитии конкуренции". За уклонение от исполнения или несвоевременное исполнение предписаний антимонопольных органов Республики Беларусь по решению суда с хозяйствующих субъектов взыскивается штраф в размере до 10 процентов дохода за предшествующий год.

Хозяйствующие субъекты, включенные в Государственный реестр, находятся под постоянным наблюдением антимонопольных органов и не должны снижать объемы поставок продукции на рынок. Они обязаны декларировать любое повышение цен на монопольную продукцию в Департаменте цен или отделе цен облисполкома.

В условиях высокой инфляции перечисление штрафов за незаконно полученную прибыль выгодно для хозяйствующего субъекта, злоупотребляющего своим доминирующим положением. На наш взгляд, активная антимонопольная ценовая политика должна включать широкий спектр мер воздействия на цены: от установления тарифов и цен с индексацией в соответствии с темпами инфляции (административное регулирование) до рыночного регулирования. Следует активнее внедрять в практику заключение договоров с монополистами по установлению уровня цен и рентабельности.

По итогам проверки технологической цепочки "производство-переработка-хранение-продажа" мясной и молочной продукции— от производителей сырья (колхозов, совхозов) до продажи населению — на примере Молодечненского мясокомбината установлены факты ущемления законных интересов колхозов и совхозов со стороны хозяйствующего субъекта, занимающего доминирующее положение на рынке. В результате несоблюдения сроков и порядка расчетов за поставляемую сельскохозяйственную продукцию и продуктов ее переработки сельскохозяйственные предприятия, а также население возмещают проценты по кредитам заготовительных организаций, торговли и потери от инфляции.

Практика свидетельствует, что предприятия-монополисты должны находиться под постоянным наблюдением не только антимонопольного управления, но и специалистов по ценам. Нами проанализировано формирование и состояние цен и тарифов по такой социально значимой продукции, как торфяные брикеты. Если в 1993 году торфобрикетные предприятия, как монополисты, находились в Государственном реестре и у них декларировались цены (в ходе декларирования они были скорректированы в сторону уменьшения более чем на 1 миллиард рублей и при этом фактически рентабельность составила 25-35 процентов, что позволяло обеспечить нормальную работу коллективов этих предприятий), то с января 1994 года, когда предприятия добились своего исключения из Государственного реестра предприятий-монополистов и когда с них был снят контроль, наблюдаем резкое повышение рентабельности реализованной продукции — до 73,8 процента и падение объема производства брикетов. Например, только на торфобрикетном предприятии "Неман" за первый квартал текущего года по сравнению с соответствующим периодом прошлого года производство брикетов снизилось на 0,8 тысячи тонн. Такое же положение и по другим торфобрикетным предприятиям области.

Низкий уровень денежных доходов населения, проживающего в неблагоустроенном жилфонде области, не позволяет резко повышать розничные цены на топливо. Поэтому считаем целесообразным ввести декларирование цен на социально значимые виды продукции предприятий и не исключать их из Государственного реестра предприятий-монополистов, как бы они ни старались добиться этого.

Областное управление работает и по другим направлениям. Одно из них — развитие конкурентной среды предприятий государственного сектора со стороны негосударственных структур. Сегодня в области действуют 108 кооперативов, 878 малых предприятий и обществ с ограниченной ответственностью, 90 совместных предприятий, 12.568 предпринимателей без образования юридического лица.

Работниками управления составлена карта развития предпринимательства области, которая наглядно подтверждает активность новых структур хозяйствования. Наибольшее развитие малый бизнес получил в городах областного подчинения и промышленно развитых районах.

В соответствии с решением январской сессии областного Совета, в области начался процесс создания структур, предназначенных обеспечить поддержку развития предпринимательства. Однако в настоящее время созданные фонды и центры по поддержке малого бизнеса не могут решать те задачи, которые стоят перед ними, из-за отсутствия средств, что вынуждает их заниматься коммерческой деятельностью. В мае этого года с помощью специалистов управления зарегистрирован областной фонд финансовой поддержки предпринимательства, который также не имеет средств для осуществления своей деятельности. Поэтому необходимым шагом в деле государственной поддержки новых организационно-правовых форм хозяйствования должно быть создание специального фонда за счет отчислений, поступивших в доход бюджета от деятельности негосударственных структур (скажем, в размере 0,5-1 процента). Эти средства могут быть направлены на финансирование конкретных бизнес-планов развития территорий, которые решают вопросы обеспечения населения товарами народного потребления, продуктами питания с одновременным решением вопросов обеспечения рабочими местами.

*Николай КАЗАЧЕК, заместитель начальника областного территориального управления по антимонопольной политике.*

*P.S. Гонорар за статью автор оставляет редакции.*

## МІНСКАЯ ХРОНІКА

### ДЗЕЦІ МАЛЮЮЦЬ КОСМАС

Выстаўка работ юных мастакоў "Беларускія дзеці малююць космас" адправілася з Мінска ў Маскву. Прадстаўленыя на ёй 80 лепшых малюнкаў экспануюцца ў Акадэміі імя Жукоўскага, дзе праходзіць канферэнцыя Міжнароднай асацыяцыі па касмічных палётах.

Як паведаміў Белінфарм, запрасіў выстаўку мастацкіх работ беларускіх дзяцей у Маскву наш зямляк, прэзідэнт Расійскай асацыяцыі па касмічных палётах Уладзімір Кавалёнак.

### ЗА ТАЛОН — 400 РУБЛЁЎ

Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб павелічэнні ў два разы тарыфаў на праезд у гарадскім транспарце. З 15 жніўня адзін талон на аўтобус, тралейбус, трамвай і жэтон у метро будзе каштаваць не 200 рублёў, а 400. Па новай цане будуць прадавацца праязныя білеты на верасень.

### САМЫЯ ПАПУЛЯРНЫЯ

У вышэйшых навучальных установах закончылася залічэнне студэнтаў на дзённыя аддзяленні. Самымі папулярнымі ў гэтым годзе былі Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт і Беларускі дзяржаўны універсітэт.

### ПАДАРЫЦЬ ЛЮДЗЯМ ЦЕПЛЫНЮ

Таварыства інвалідаў Фрунзенскага раёна выкарыстоўвае кожную магчымасць, каб дапамагчы сваім падапечным. У гэтым грамадскаму фарміраванню аказваюць падтрымку прадпрыемствы і арганізацыі раёна, і ў першую чаргу завод халадзільнікаў, аб'яднанне "Мінскпасажыраўтатранс", фірма "Пушэ". 14 мільёнаў рублёў пералічыў таварыству інвалідаў фонд "Дзецям Чарнобыля". Тут стала правілам віншаваць юбіляраў, уручаць ім падарункі, аказваць нямоглым дапамогу.

### ПАЧЫНАЕЦЦА ПАДПІСКА

Заўтра ў Мінску пачынаецца падпіска на перыядычныя выданні на чацвёрты квартал. На беларускія газеты і часопісы яна прадоўжыцца да 15 верасня, а на расійскія — да 10 верасня.

### БЕЗ ПЕРАСАДКІ

Новую паслугу зрабіла пасажырам Беларуская чыгунка. Без перасадкі можна цяпер даехаць з Мінска ў Чэлябінск і Саратаў. Тым, хто мае намер трапіць на Урал, дастаткова набыць білет у прычапны вагон да поезда "Калінінград—Чэлябінск", які праходзіць праз сталіцу Беларусі па няцотным числам. Па аўторках прамы вагон адпраўляецца з Мінска ў Саратаў.

### У ЦЭНТРЫ НАВУЧАННЯ — КАМЕРЦЫЯ

Дзвесце студэнтаў будуць залічаны ў недзяржаўны Сацыяльна-эканамічны інстытут, які абвясціў першы набор. Тут будуць рыхтаваць спецыялістаў банкаўскай сістэмы і камерцыйнай дзейнасці. Глыбокія веды атрымаюць студэнты ў галіне права і замежных моў.

### ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСУ

На кафедры экалогіі Беларускай політэхнічнай акадэміі быў арганізаваны конкурс на паездку ў Галандыю, дзе функцыяніруюць спецыяльныя еўрапейскія курсы па экалогіі. Пераможцамі яго сталі маладыя вучоныя — муж і жонка Вячаслаў і Галіна Парфёнавы. На працягу года яны будуць паглыбляць веды ў галіне экалогіі, стажыравацца па пытаннях экалагічнага менеджменту.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

■ Зямля і мясцовая ўлада

# ДЛЯ НАХАБНЫХ НЯМА МЕЖАЎ

Цяперашнія падзеі ў рэспубліцы глыбока закранаюць лёс людзей. Хворае грамадства, мноства праблем выплёскваюць на іх увесь цяжар быцця. Аб чым толькі не пачуеш, едучы ў транспарце, у тым ліку і аб прыватызацыі. Больш за ўсё дастаецца ёй. Асабліва што датычыць выкупу зямлі. Бо заўсёды дэкларавананае Законам чамусьці доўга не даецца чалавеку, яму трэба ў абавязковым парадку прайсці праз выпрабаванні. Рая Аўчыннікава, дэпутат Лугаваслабодскага сельсавета, падзялілася сваёй бядой:

— Вырашыла прыватызаваць прысядзібны ўчастак, каб ён быў маёй уласнасцю, — усхвалявана гаварыла яна. — Але гэтая "мафія" не дае ходу маёй заяве.

Пад "мафіяй" меўся на ўвазе сельсавет, дакладней — землеўпарадчык С.І.Шчарбакоў. Таму мы і вырашылі пагаварыць непасрэдна з ім.

— Па-першае, хацелася б пачуць: чаму вы так абышліся з жанчынай?

— Аўчыннікава напісала заяву ў Вярхоўны Савет. Адтуль пісьмо прыйшло нам. На яго мы далі адказ. У нас толькі пачалася прыватызацыя. Справа ў тым, што мне трэба было напачатку выканаць здымку населенага пункта, абмераць агароды вяскоўцаў. Дарэчы, Аўчыннікавай абмер мы зрабілі, падрыхтавалі дакументацыю. Але, згодна з законам, суседзі павінны паставіць свае подпісы: з межамі яе ўладання згодны. На жаль, ніводзін з іх не дае згоды на тое, каб яна змагла выкупіць 0,5 гектара. Маўляў, у іх намнога меншыя ўчасткі. Чаму тады ёй можна больш, а ім — не. Пакуль не вырашыцца канфліктная сітуацыя, прыватызаваць яе ўчастак мы не зможам.

Згадзіцеся, мядзведжую паслугу аказаў у данай сітуацыі Закон. А што калі суседзі не ў згодзе па якіхсьці матывах? Дык яны лепш памруць, але свой подпіс не паставяць. А жанчыне, якая мае малое дзіця, вядома ж, зручней было б мець участак ля дома, чым недзе ў полі, за некалькі кіламетраў.

— Колькі праблем для нас стварае недасканалае заканадаўства! — узрушана зазначае Станіслаў Іванавіч. — Паўсюдна назіраецца самавольны захоп грамадскай пашы, лугоў. Возьмем для прыкладу дом № 86. Жыве ў ім стары інвалід, удзельнік вайны М.В.Костэль, якому акрамя здароўя нічога ўжо не трэба. Але ў яго ёсць сын з камерцыйнай стрункай. Таму патрэбна шмат. Напачатку яму спатрэбіўся склад. Узвёў яго — цагляны, капітальны. Выклікаў я не раз землеўпарадкавальную раённую службу. Склалі акт на незаконнае будаўніцтва. У выніку камерсант заплаціў 30 тысяч штрафу. Гэта за захопленыя 12 сотак зямлі!

— Ну што, укусілі?! — з усмешкай сказаў мне ён пры сустрэчы.

Беспакаранасць натхніла яго на новы захоп. Ён пабудаваў дом, ужо вывеў яго пад дах. І нікога не баіцца. Як у той прымаўцы: мой дом, мая крэпасць. Гледзячы на яго, і іншыя вяскоўцы падумалі: а чым жа мы горшыя за Костэля? Па 5-10 сотак захапілі Генадзь Крылоў, Лазар Шабан, Аляксандр Варанцоў і шэраг іншых. Няма праваў ні ў сельсавета, ні ў мяне, каб забраць захопленае. І раённы аддзел па землеўпарадкаванню наўрад ці зможа разабрацца ў кожнай канфліктнай сітуацыі.

— А на патрэбы прыватызацыі выдзяляюцца фінансы?

— Гэта справа карпатлівая: складаецца фотаплан па населенаму пункту, схематычны план сядзібы гаспадара. І ўсе гэтыя работы, як трактуе Закон, павінны выконвацца за кошт бюджэту. Адтуль жа грошай на гэтыя мэты не паступае. Пайшоў я ў Камітэт па зямельнай рэформе, што ў Мінску па вул.Камсамольскай. А старшыня яго Кузняцоў мне і кажа:

— Бюджэту рэспублікі на такі фронт работ не хопіць. Атрымліваецца, далі людзям Закон і ў той жа час падставілі падножку.

— І ўсё ж нейкія перавагі ў прыватызацыі зямлі ёсць?

— Так, сельскаму чалавеку важна валодаць уласнай зямлёй. Яе можна скарыстаць як залог пад пазыку банка, прадаць, калі не пад сілу апрацоўваць. Да гэтага часу ў вяскоўца не асабліва пыталіся, калі трэба было пракладваць газаправод, камунікацыі. А зараз без яго згоды ўласнасць ніхто не зачэпіць. І разам з тым ёсць адно "але". З нецярпеннем чакаем яшчэ адзін Закон — аб падатках на нерухомасць. З неафіцыйных крыніц паступаюць звесткі, што ён будзе не на карысць селяніна.

— А што б вы прапанавалі вяскоўцам: паспяшацца з выкупам ці гэта справа няспешная і неабавязковая?

— Ведаеце, як хто на тое глядзіць. Я цікавіўся ў суседзяў, якія з прыватызацыяй справіліся адным махам. Там кіраўнікі гаспадарак сабралі людзей і паведамілі ім, што ніхто ў іх асабістыя зямельныя ўчасткі забіраць не збіраецца. І заяў на прыватызацыю там не паступала. Словам, гэта акцыя добраахвотная, хто хоча, той і падае заяву. Але наш раён прыгарадны, своеасаблівы, нам такі варыянт не падыходзіць. Трэба, каб кожная сотка была на строгім уліку.

— Людзей, напэўна, цікавіць: на якім узроўні ідзе прыватызацыя і калі да іх дойдзе чарга?

— Пададзена ў сельсавет 500 заяў. І яны працягваюць паступаць. Я прытрымліваюся такога метаду: не бегаць з абмерам па ўсіх 19 вёсках. А ўзяць населены пункт і давесці справу да канца. Вось з Лугавой Слабады паступіла 17 заяў, дакументы падрыхтаваны. Праз дзень-два закончу паўторныя замеры, і работа будзе завершана. Адначасова мы праводзім сходы з удзелам насельніцтва.

Зрэшты, у кожнага свой погляд на ўласнасць. Калі людзі ўпэўнены, што іх прысядзібны ўчастак гаспадарка не забярэ, дык аб прыватызацыі і не задумваюцца.

*Марыя МАЦЕЙКА. Мінскі раён.*

*500 галоў налічвае трусаферма ў калгасе "Слабодскі" Старадарожскага раёна. Гэтай буйнейшай у рэспубліцы гаспадарцы роўна год.*

*НА ЗДЫМКУ: трусавод Наталля* ***Макарава.***

*Фота Анатоля БАСАВА.*

### ВІТАМІННЫ ЦЭХ КАЛГАСА

Калгас «Камінтэрн» Дзяржынскага раёна спецыялізуецца на вырошчванні ягад і садавіны. Напрыклад, плантацыі парэчак, маліны тут займаюць больш як 30 гектараў. Ураджай вырашчаны нядрэнны. Цяпер ідзе збор дароў вітаміннага цэха. На перапрацоўчыя пункты адгружана звыш 30 тон. Значную дапамогу ў зборы ягад аказваюць жыхары гарпасёлка Фаніпальскі, бо з кожнага вядра кілаграм выдаецца на ўласныя патрэбы.

Вялікія надзеі тут ускладаюць на калгасны сад, плошча якога 300 гектараў. Завяршаецца будаўніцтва пладасховішча ёмістасцю 3 тысячы тон з цэхам па вырабу сокаў, кампотаў, джэмаў, іншай вітаміннай прадукцыі.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

■ Чалавечыя лёсы

# «Дзядзька Коля вывеў нас з пекла...»

## *Невядомыя старонкі з жыцця Кузьмы Чорнага*

**Аб творчасці беларускага пісьменніка, нашага земляка Кузьмы Чорнага (Мікалая Раманоўскага) у пасляваенныя гады надрукавана нямала даследаванняў. На мой погляд, найбольш грунтоўная праца належыць пяру вядомага беларускага літаратурнага крытыка Міхася Тычыны.**

Аб ёй нядаўна ў пансіянаце "Мікалаеўшчына" на Стаўбцоўшчыне, дзе я адпачываў, напомніла пенсіянерка з г. Дзяржынска Любоў Аронаўна Градзітар. Усё адбылося даволі нечакана: падыходзіць да мяне незнаёмая жанчына і пытаецца: "Прабачце, вы будзеце пісьменнік Міхась Тычына, які напісаў кнігу пра Кузьму Чорнага?" Адказваю, што я толькі журналіст, а пісьменнік гэты — мой цёзка па прозвішчу і імені. Жанчына сумелася, але растлумачыла, што перад вайной дзяўчынкай-школьніцай не раз сустракалася з Кузьмой Чорным у Мінску, сябравала з ягонай дачкой Ірай і гатова больш падрабязна расказаць аб тых сустрэчах. Мяне гэта зацікавіла, і я запісаў усё, што расказала Любоў Аронаўна.

— Да вайны бацькі мае жылі ў вялікім шлакабетонным доме па вуліцы Максіма Горкага. Побач з намі, у суседняй кватэры, пад адным дахам, пражывалі муж і жонка Свіраноўскія — Барыс і Вольга. Сястра Барыса, Рэвека Ізраілеўна, была жонкай Чорнага, і яны часцяком праведвалі Свіраноўскіх, а тыя запрашалі на чай маіх бацькоў — суседзі ўсё ж. Перад вайной мне споўнілася трынаццаць гадоў, і многае з тых сустрэч я добра памятаю. Дзядзька Коля, як мы называлі Чорнага, прыходзіў кожны раз з гасцінцамі, частаваў дзяцей цукеркамі, марожаным. Мы яго любілі і паважалі за добразычлівасць, за весялосць. За сталом ён быў тамадою, умеў расказаць дасціпны анекдот. Запомніла яго шыракаплечым статным мужчынам. У час такіх сустрэч я і пазнаёмілася з яго дачкой Ірай. Яна была маёй равесніцай, і гэта яшчэ больш зблізіла нас.

Апошні раз я бачыла дзядзьку Колю на трэці дзень вайны. Мінск тады жорстка бамбілі. Здарылася так, што бацька наш у першы дзень вайны пайшоў у ваенкамат, а маці з дзіцячым садком знаходзілася ва Уруччы. Фактычна я засталася адна дома, і мне было страшна. Выйшла на вуліцу і ўбачыла бацькаву сястру з дачкой Аленай, якая была гады на два старэйшая за мяне. І тут насустрач нам ідуць дзядзька Коля з жонкай і дачкой. З сумкамі, авоськамі ў руках. Во была радасць! Чорны загадаў усім зайсці ў дом, бо вакол ірваліся бомбы, у паветры свісталі асколкі. А яшчэ загадаў нам узяць з сабою самыя неабходныя рэчы: я зразумела, што давядзецца развітвацца са сваім домам, з горадам. Раптам з кухні даляцеў грукат — і глухі ўдар у зямлю. Дзядзька Коля заглянуў туды, а там бомба ў падлогу ўбілася, толькі стабілізатар тырчыць зверху, у столі — дзірка. Бомба чамусьці не ўзарвалася, але дзядзька Коля папярэдзіў, што, магчыма, яна з гадзіннікавым узрывальнікам і можа рвануць у бліжэйшыя некалькі мінут. На жаль, дзверы ад удару бомбы закlініла, не адчыніць. Дзядзька Коля адшукаў сякеру, узламаў іх, і мы выйшлі на вуліцу. Ішлі міма ахопленых полымем драўляных дамоў — праз вогненны калідор. Наперадзе дзядзька Коля, а мы за ім услед. Памятаю, як ён паўтараў: "Толькі, дзяўчынкі, без панікі, усё будзе добра". Калі адышлі ад нашага дома метраў чатырыста, ззаду бабахнула: гэта ўзарвалася тая бомба на кухні. У такой страшнай мітусні мы страцілі Чорных. Я некалькі разоў гукала дзядзьку Колю, але дарэмна. Дабраліся мы пад вечар да Уручча. Аб вяртанні ў Мінск не было і размовы. Тутэйшыя вайскоўцы прыслалі пяць грузавых бартавых машын, на іх пасадзілі 106 дзяцей з садка. Падышоў, памятаю, генерал і, звяртаючыся да нас з Аленай, сказаў: "А вы, дзяўчаты, з гэтага моманту — адказныя за дзетак, глядзіце за імі, не давайце ў крыўду. У добры шлях!"

Да Магілёва дабраліся без асаблівых прыгод, калі не лічыць пастаянных бамбёжак шашы. Дзяцей накармілі, паклалі спаць, а назаўтра адправілі поездам на Казань. Разам з імі ехалі і мы з маці, і нашы суседзі. Ужо ў эвакуацыі мы адшукалі свайго бацьку.

Вярнуліся мы з маці ў Мінск адразу пасля вызвалення горада. Я закончыла сярэднюю школу, а потым — інстытут замежных моў і атрымала накіраванне ў г. Дзяржынск, дзе і працавала ў школе да выхаду на пенсію. І яшчэ. Праз некаторы час пасля вяртання з эвакуацыі ў мяне была сустрэча з жонкай Чорнага і яе дачкой Ірай. Яны жылі па вуліцы Свярдлова. Памятаю, што Рэвека Ізраілеўна працавала над рукапісамі мужа, яны дасталіся ёй пасля яго смерці ў сорак чацвёртым годзе. Я тады нічога не ведала пра яго арышт сталінскімі сатрапамі, пра знаходжанне ў магілёўскай турме, адкуль ён выйшаў цяжка хворым чалавекам, пра што, аднак, ніколі нам не гаварыў.

*Міхась ТЫЧЫНА.*

